ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 34 (90) 21 – 27 кастрычніка 1994 г. Кошт 50 рублёў

*«Білі ў твар азьвярэлыя, страціўшыя чалавечае абліча нашчадкі злачыннай КПСС»* - ст. 2.

*ПРАВЫ РЭВАНШ, Славамір АДАМОВІЧ: «Адстойваць свае правы грамадзянам прыйдзецца самім».* - ст. 2-3.

*Толькі на Гарадзеншчыне дагэтуль не зарэгістравана ніводнага выпадку хворых СНІДам.* - ст. 5.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ГАЙДУКЕВІЧ ПАДАЕ Ў АДСТАЎКУ

Як паведаміла прэс-служба Народнага руху Беларусі, у каардэнацыйны камітэт НРБ паступіла заява старшыні НРБ С.Гайдукевіча з прозьбай вызваліць яго ад займаемай пасады.

Як вядома, постаць Гайдукевіча і яго дзейнасьць паспрыялі расколу ў шэрагах левых.

М.Т.

## ПАЛАТА N 2 УЗБУНТАВАЛАСЯ

У мінулую нядзелю ўзбунтаваліся "пастаяльцы" псіхіятрычнай бальніцы "Гайцюнішкі", якая размешчана на тэрыторыі старога маёнтка ў Воранаўскім раёне. Як вядома, у гэтай лячэбнай установе знаходзяцца асобы, якія здзейсьнілі злачынствы ў стане бессвядомасьці.

Падагрэтыя нелегальна дастаўленымі ў палату моцнымі напоямі, хворыя пацьвердзілі свой шалёны характар: пачалі біць вокны, ламаць ложкі, а потым кінуліся таранiць дзьверы. Калі на іх шляху паўсталі двое маладых міліцыянтаў-вартаўнікоў, правадыр "шалёных", нягледзячы на два стрэлы ўгору, зьбіў з ног шэраговага міліцыянта і занёс над яго тварам руку са шклом. Але апераджальны стрэл пасьпеў спыніць караючую руку на замаху. Страта лідэра, які памёр на месцы, крыху ахаладзіла атакуючых.

Хутка падасьпелым на дапамогу нарадам міліцыі з Воранаўскага РАЎС "бунт" быў канчаткова ўтаймаваны.

Пракуратурай праводзіцца дэтальная праверка прычын беспарадкаў. Дзеяньні міліцыі прызнаны правамернымі. А вось да медперсанала ёсьць пытаньні. Гэта, у прыватнасьці, тычыцца, і недапушчальна ільготных умоў для хворых, якія былі створаны ім у гэтай рэжымнай установе, у тым ліку і недастаткова кантралюемага працэсу перадачы ім наяўнасьці пасылак. Не выключана, што па выніках праверкі супраць адказных медработнікаў будзе ўзбуджана крымінальная справа за нядбайнасьць.

Яўген МАГІЛЁВЕЦ.

## БЕЛАРУСКІЯ НАЦЫЯНАЛІСТЫ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

У лістападзе гэтага года ў Віцебску пройдзе Першы З'езд Беларускіх Нацыяналістаў. Сярод яго задач - наладжваньне кантактаў паміж арганізацыямі і прыватнымі асобамі, якія вызнаюць нацыяналістычную (нацыянальную) ідэю; падрыхтоўка да выбараў; стварэньне сеткі апаратыўнага абмену; выпрацоўка тактыкі і стратэгіі беларускага нацыяналістычнага руху; стварэньне Правага Альянсу Нацыяналістаў (Кангрэсу, Асамблеі - варыянты будуць разгледжаны на з'ездзе). Да ўдзела ў з'ездзе запрашаюцца зацікаўленыя асобы і арганізацыі. Тэлефон для кансультацый: 36-43-62, з 11.00 да 14.00.

## МІМА КАСЫ

Нядаўна высокастаўлены чыноўнік новага ўраду Беларусі даў інфармацыю, што, па яго зьвестках, у бюджэт рэспублікі трапляе толькі каля палавіны належачых ад падаткаў сродкаў.

Прычына, на думку чыноўніка, хаваецца ў недакладнасьці заканадаўчай базы, якая дае магчымасьці камерсантам і прамыслоўцам лёгка знаходзіць способы, каб утойваць ад дзяржавы вялізарныя сумы.

## МІТЫНГ У СМАРГОНІ

Днямі рабочыя Смаргонскага заводу аптычнага станкабудаваньня правялі мітынг пратэсту на пляцы перад мясцовым гарвыканкамам. Галоўнае патрабаваньне рабочых - гэта павышэньне заробку ў два разы, спыненьне скарачэньняў, поўны працоўны тыдзень.

## ТРАНЗІТНЫЯ ПРАВІЛЫ

З кастрычніка ў адносінах да некаторых тавараў, ідучых транзітам з Захаду на Ўсход праз Беларусь, пачалі дзейнічаць новыя правілы.

Загадам Беларускага мытнага камітэту ўстаноўлена, што моцныя напоі і тытунёвыя вырабы могуць перавозіцца толькі пры наяўнасьці кніжкі "Карнэт цір" з запісам "Тытунь, алкаголь". Зацьверджаны сьпіс і іншых вырабаў, якія можна перавозіць толькі пры наяўнасьці гэтай жа кнігі. Галоўным чынам гэта тавары бытавой тэхнікі: лядоўні, аўдзі- і відэатэхніка, пыласосы, прасы, фотаапараты, легкавікі.

На аналагічныя тавары, выробленыя на тэрыторыі СНД, гэта не распаўсюджваецца.

## УСЁ НА СВАІХ МЕСЦАХ

Як стала вядома "Пагоні" з блізкіх да рэдакцыі крыніц інфармацыі, справа з зялёным калідорам на Беларуска-Польскай мяжы і арыштам 25-ці мытнікаў і памежнікаў - не болей, чым чарговая вутка. Старшы афіцэр Гарадзенскага памежнага атраду сказаў наступнае: "На самой справе за злоўжываньні з перавозкай хімікатаў на Ваўкавыскім памежным участку арыштаваны ўсяго адзін прапаршчык. Яшчэ за парушэньні рэжыму выдачы выяздных візаў звольнены з займаемых пасадаў начальнік КП у Свіслацкім раёне і начальнік мясцовага АВіРу. Усе астатнія памежнікі і мытнікі працуюць на сваіх месцах".

## ДЛЯ СЛУЖБЫ І ЖЫЦЦЯ

У палку сувязі, што месьціцца па вуліцы Лідзкай у Горадні, прайшлі ўрачыстасьці, прысвечаныя юбілею - 75-годдзю войскаў сувязі. На фэст былі запрошаны старшакласьнікі гарадзенскіх школ, якім былі прадэманстраваны рухомыя сродкі сувязі, а таксама навінкі кабельнай і касьмічнай сувязі.

На думку арганізатараў, знаёмства вучняў з ваеннай тэхнікай будзе на карысьць ня толькі ў будучай вайсковай службе, але і ў жыцьці.

## КРОКАМ РУШ НА НОВЫЯ КВАТЭРЫ

У Лідзе скончана будаўніцтва жыльлёвага гарадка для вайскоўцаў на 53000 кв.м. Усе выдаткі на будаўніцтва зфундавала Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

## РЫХТУЕМСЯ ДА ВЫБАРАЎ

Гарадзенская гарадзкая рада БНФ "Адраджэньне" прыняла рашэньне правесьці ўлік сваіх сяброў па двух раёнах горада. Улік сяброў БНФ будзе весьціся паэтапна, згодна выбарчых акругаў.

Пераўлік вядзецца з мэтай актывізацыі дзейнасьці сяброў Фронту па месцы жыхарства, а таксама дзеля падрыхтоўкі да выбараў.

Паседжаньні сяброў рады Народнага Фронту і прыхільнікаў руху праходзяць па аўторках у 18.30 у памяшканьні КАФ "Бацькаўшчына".

## ПЛАТНЫ ДАНТЫСТ У КАРОБЧЫЦАХ

У вёсцы Каробчыцы Гарадзенскага раёна побач з аўтастрадай Горадня-Беласток ад нядаўняга часу працуе платны стаматалагічны кабінет, дзе пацыенту за адпаведную суму могуць паставіць пломбу, зрабіць фізеатэрапію ды іншае.

Дарэчы, кабінет у Каробчыцах карыстаецца асаблівым попытам у польскіх турыстаў.

## ПРАПАНОВЫ ФОНДУ ІМЯ Л.САПЕГІ ВЫВУЧАЮЦЦА

Як стала вядома газеце "Пагоня" з блізкіх да рэдакцыі крыніц інфармацыі, дакументы, распрацаваныя фондам імя Л.Сапегі па "Канцэпцыі Рэфармаваньня дзяржаўнага кіраваньня на мясцовым узроўні і сістэмы мясцовых прадстаўнічых органаў улады", разасланыя Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь ва ўсе юрыдычныя аддзелы аблвыканкамаў на абмеркаваньне.

На запыт карэспандэнта "Пагоні" супрацоўніца Гарадзенскай філіі фонду імя Л.Сапегі Т.Маліноўская адказала: "Тое, што дакументы з праграмай канцэпцыі па рэформе органаў дзяржаўнай улады, распрацаванай нашым фондам, вывучаюцца на ўзроўні аблвыканкамаў, сьведчыць, што мы працуем нездарма. Канешне, разьлічваць на тое, што наша канцэпцыя будзе ў хуткім часе прынята, таксама склада, бо зараз заканадаўцы Беларусі твораць у іншым накірунку. Аднак мы працуем на перспектыву і верым, што праз пэўны час нашы законатворцы вернуцца да канцэпцыі. Таму мы робім новыя распрацоўкі, выкарыстоўваючы вопыт Эўрапейскіх краін, удасканальваем праграму, каб яна адпавядала самым высокім патрабаваньням".



ФІНА-А-АНСЫ ПЯ-А-АЮЦЬ РАМА-А-АНСЫ.
СТАРШЫНЯ ПРАЎЛЕНЬНЯ НАЦБАНКУ С.БАГДАНКЕВІЧ ПАДЧАС ІНТЭРВ'Ю.
Фатаграфаваў С.ГРЫЦ.

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

*Артыкул "Гісторыя ім не навука" ("Пагоня" N 33), дзе паведамлялася пра крывавую бойку, якую ўчынілі на прыступках Гарадзенскага гарвыканкаму(!) "інтэры", усхвалявaў нашых чытачоў. У рэдакцыю дагэтуль прыходзяць лісты-водгукі. Улічваючы, што мясцовымі ўладамі і праваахоўнымі органамі не дадзена прынцыповая ацэнка таго, што адбылося, мы зноў вяртаемся да гэтай тэмы. І справа тут ня толькі ў зьмене назваў вуліц. Галоўнае ў тым, што ня можа быць нармальным становішча, калі пераможцам у палітычных дыскусіях становіцца той, у каго большыя кулакі.*

## ДЭПУТАТЫ ЗЬЛЕВА, ДЭПУТАТЫ СПРАВА

**Сесія Гарадзенскага гарадзкога Савета Народных дэпутатаў сярод іншых пытаньняў зноў вярнулася да прапановы адпаведнай камісіі перайменаваць шэраг вуліц Горадні: адным надаць старажытныя назвы, навейшым - неідэялагічныя. Парадак дня, як парадак дня. Аднак трэба ўлічыць некалькі акалічнасьцяў.**

Наданьню назваў шэрагу вуліц пэўныя сілы імкнуцца прышчапіць палітычнае адценьне. Гэта яскрава прагучала і на сесіі ў выступах некаторых дэпутатаў. Хаця народны абраньнік Тацьцяна Маліноўская адразу заклікала адкінуць прэч палітычныя гульні. Дарэчы, спробы "загаварыць" менавіта вызначэньне лёсу вуліц назіраліся і раней. Аднак большасьць дэпутатаў, да іх гонару, усё ж такі давала згоду на перайменаваньне дзьвюх-трох. І за гэта дзякуй!

Старшыня гарвыканкама Генрых Крупенка зачытаў адозву членаў утворанага ў Горадні руху "Очищение". У ёй прама гаварылася: ніякіх новых назваў, не час, гібеем без грошай, эканоміка ляжыць... Просім наогул не ўключаць у парадак дня...

Ленін казаў калісьці: хочаш утапіць справу - ствapaй як мага больш камісій. Няхай правяраюць, вывучаюць, абы справа не рухалася. Так і ў дадзеным выпадку. Дарэчы, грошы на выраб шыльдаў могуць даць камерцыйныя структуры. Пра гэта таксама было сказана на сесіі. Вось тут і праявілася крывадушша асноўнай масы дэпутатаў, стала відавочна падчас галасаваньня. Не набралі неабходнай большасьці галасоў прапановы надаць гістарычныя назвы вуліцам Сацыялістычная (Вітаўта), Ціміразева (Станіслававa), Люксембург (Грынкевіча), Бялінскага (Агінскага) і некаторых іншых.

Зьвярніце ўвагу на ідэалагічную афарбоўку вуліц, прапанаваных да зьмены іх назваў. Спрацаваў стэрэатып: не паступімся прынцыпамі. Дзіва-дзіўнае! Нашыя зрусіфікаваныя дэпутаты і дэпутаты-расейцы па паходжаньню хочуць быць больш рускімі, чым, напрыклад, жыхары Масквы. Там даўно памянялі назву вуліцы Горкага (Цвярская). Над Крамлём лунае сьцяг царскіх часоў. Зноў пільна пазірае на Ўсход і Захад двухгаловы арол - герб новай Расеі. І нічога! Нешта не чуваць, каб галоўны расейскі камуніст Зюганаў ці нехта з іншай партыі горача выступалі супраць дзяржаўных сымболяў.

А вось на Беларусі можна! Людзей, якія ня ведаюць ні гісторыі, ні беларускага менталітэта, ні характару тутэйшых, раптам усхвалявала, што сьцяг тут бел-чырвона-белы і герб Пагоня. І ўсёй зграяй накінуліся - не дамо! Маўляў, фашысты і здраднікі выкарыстоўвалі. Ну, апошняе трэба яшчэ даказаць. Але не патрабуе доказаў, што пад чырвоным сьцягам ва ўсесаюзным ГУЛАГу было закатавана 18 мільёнаў грамадзян. Як не патрабуе доказаў тое, што генерал-здраднік Уласаў вёў сваю Расейскую вызваленчую армію супраць Чырвонай пад цяперашнім сьцягам Расеі.

Відаць, справа наогул не ў сымболях і назвах вуліц. Справа ў палітыцы і палітыканах. Справа ў той атмасферы, якая складваецца апошнім часам на Беларусі: адчуваецца рэзкі паварот ад беларусізацыі да прызвычаенага, ранейшага. Расейская мова раптам запанавала на тэлебачаньні і радыё. Чуваць радасныя воклічы: "Усё, нарэшце, дачакаліся!.."

Чаго дачакаліся тыя, хто так хацеў павароту назад? Крыві? Дык яна была. На прыступках гарвыканкама ўрукапашную схапіліся прыхільнікі зьмены назваў вуліц і "непрымірымыя". Гэта ня факт мясцовага значэньня. Гэта сьведчаньне новай палітыкі. Гэта шлях пэўных колаў да канфрантацыі, жорсткага супрацьстаяньня. Якія тут ужо назвы вуліц!

Я зьвярнуў увагу на дэпутатаў, якія галасавалі. Асабліва на народных выбраньнікаў. Яны наогул не галасавалі, альбо зрэдку. Гэткая аморфная маса (ні "за", ні "супраць"). Шкада, што выбаршчыкі ня бачылі сваіх пасланцоў у гарсавеце. Калі гэтыя дэпутаты ня могуць вызначыцца тут, то хіба яны могуць абараніць інтарэсы выбаршчыкаў? Наўрад ці.

І апошняе. Дэпутат Філін з трыбуны сесіі замест абмеркаваньня вынесенага на парадак дня, паспрабаваў прачытаць навукова-папулярную лекцыю па дасягненьнях Гарадзеншчыны за апошнія 50 гадоў. А хіба нехта аспрэчвае іх? Факты відавочныя. Але, на мой погляд, выступовец меў дзьве мэты: супрацьстаяць спробе надаць новыя (старыя) назвы вуліцам і паспрабаваць "крытыкнуць" намесьніка старшыні гарвыканкама Аляксандра Мілінкевіча, прычым, бяздоказна. Не ўпрыгожвае гэта дэпутата, якіх бы поглядаў ён не прытрымліваўся.

Няўжо водгульле інцыдэнта, што адбыўся на прыступках гарвыканкама, закранула і залу, дзе праводзяцца сесіі?

А мо наадварот, непрымірымасьць пазіцый дэпутатаў выплескваецца на вуліцы і плошчы?

**В.ЗАДАЛЯ,**
**дэпутат Гарадзенскага вабласнога Савета.**

## КРЫВАВЫ ПІКЕТ

**5 кастрычніка а 10 гадзіне пачынала працу чарговая сесія гарсавета. Адным з пытаньняў да разгляду было перайменаваньне вуліц Горадні, дакладней, вяртаньне гораду старажытных назваў вуліц, вяртаньне нашай гісторыі.**

**Напярэдадні адбылося чарговае паседжаньне гарадзенскай Рады БНФ, дзе была атрымана інфармацыя, што пракамуністычныя адшчапенцы будуць выстаўляць пікет каля ўвахода ў будынак гарвыканкама з патрабаваньнем: ніякіх зьмен назваў вуліц Горадні. На Радзе БНФ было прынята рашэньне выставіць свой пікет .**

На фронтаўскі пікет ішла нешматлікая, з 13-15 асоб, група людзей: прадстаўнікі сярэдняга ўзросту і Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў. Калі мы выйшлі на пляц Леніна, то ўбачылі ля ўвахода ў будынак гарвыканкама зьлева вялікі натоўп, ня менш як сотня чалавек, якія раптам ўбачыўшы, хто падыходзіць (ішлі мы па 3-4 чалавекі), як па каманьдзе шпарка пачалі перастройвацца і ланцугом ахопліваць з усіх бакоў лесьвічныя прыступкі ўвахода. Гэта вельмі істотна, бо гэта ўжо быў пачатак канфрантацыі.

І калі падыйшла першая групка з трох чалавек з плакатамі і сьцягамі БНФ (дзяржаўны сьцяг з вышытым на ім крыжам Еўфрасіньні Полацкай), вольнае месца на прыступках зправа яшчэ было, і яны туды накіраваліся.

На самых прыступках адразу ж сабраўся шчыльны натоўп больш маладых пенсіянераў з вайсковай выпраўкай. Трое фронтаўцаў з плакатамі і сьцягамі пачалі асьцярожна працісквацца наперад.

І што тут адбылося!

Як па каманьдзе (напэўна так і было) ўвесь гэты натоўп на прыступках, прачытаўшы напісанае на плакатах і разгледзеўшы сьцяг, пачалі выкрыкваць абразы і пагрозы ў бок пікетчыкаў Беларускага Народнага Фронту: "Фашисты... националисты... С фашистским флагом! Кто позвал вас сюда... Вон отсюда. Вон!" Раптоўна азвярэлы натоўп кінуўся ламаць і рваць плакаты і сьцяг у пікетчыкаў з БНФ. Але ж каб толькі рвалі атрыбутыку пікету. Не! Білі ў твар раз'юшаныя, азвярэлыя, страціўшыя ў імгненьне чалавечае аблічча ўсе нашчадкі злачыннай КПСС.

Фронтаўцы як маглі спачатку супакойвалі разпярэзаўшыхся пенсіянераў (у асноўным былі яны), ухіляліся ад кулакоў, кіпцюроў жанчын і абаранялі свае плакаты, сьцяг і сваю годнасьць.

А потым бойка ўзмацнілася. Агрэсіўных пенсіянераў пабольшала. У сьляпой раз'юшанасьці яны пачалі вырываць амаль што адзін у аднаго дрэўкі плакатаў і сьцяга, турзаючы за адзін канец (бо другі моцна трымалі пікетчыкі) і біючы гэтым канцом па галовах тых, хто падбягаў ім на дапамогу.

У куце, каля прыступак без плаката з разьбітым і акрываўленым тварам адбіваецца акружаны азьвярэлым натоўпам прафесар медінстытута А.Астроўскі, непадалёк ухіляецца ад кулакоў інжынер А.Міхальчык, падае на зямлю збітая "человеколюбивыми" камуністкамі пенсіянерка Ч.Семяновіч, далей у баку жанчыны з пікету БНФ бароняць свае плакаты і сябе ад раз'юшаных мужыкоў...

Кроў пралілася...

Хай сабе з аднаго пакуль што твара. Але што ж нас чакае наперадзе, калі ўжо двум пікетам, двум меркаваньням не знаходзіцца месца на двух баках вуліцы?

Ня менш цікавае здарылася потым, калі з'явіўся карэспандэнт з мікрафонам. Прадстаўнікі фронту распавялі пра зьдзек над нашай гістарычнай памяцьцю, пра тое, як і хто справакаваў бойку. З другога боку каманьдзірскім голасам гаварыў састарэлы мужчына (не назваў сябе), што яны прыйшлі ў 1944 годзе і вызвалілі гэты горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, што іх гістарычная памяць і яны не дазволяць усялякім нацыяналістам яе перакрэсьліць і ганьбіць.

Другой гаварыла пажылая жанчына, член "Партии коммунистов Белоруссии": "Мы сюда пришли первыми, а они подошли потом и напали на нас. И я должна заявить..." І г.д.

Гэтых прамоўцаў гісторыя яшчэ не навучыла. У першага на нашай Беларусі з'явілася гістарычная памяць пяцідзесяцігадовай даўніны, якую зьбіраецца бараніць. А тое, што ў беларусаў тысячагадовая гістарычная памяць - гэта па меркаваньню захопнікаў усіх адценьняў ня мае ніякага значэньня. Яны на чужой зямлі - гаспадары. Памыляецеся, шаноўныя "русскоязычные" (ну і гібрыд саўковы вывела партнаменклатура ў імкненьні ажыцьцявіць свае імперскія мэты!). Калі вы ганьбіце нашу тысячагадовую культуру і гісторыю, калі зьневажаеце ўсю нацыю, яе мову, яе гістарычныя набыткі, то вы, пасеяўшы вецер, можаце пажаць буру. Беларусь - не каўказскі рэгіён, дзе пяты год ідзе вайна. Беларусь у цэнтры Эўропы. І калі ў ёй нешта накшталт інтэрфронту справакуе нацыянальны выбух, то ўздрыгне ўся Эўропа. А што далей - тлумачыць ня трэба.

У крывавым пабоішчы ўдзельнічала добрая палова найбольш агрэсіўных рускамоўных пенсіянераў. А іншыя, што засталіся стаяць там, дзе і стаялі спачатку, пад дрэвамі, толькі назіралі за падзеямі. Там былі сапраўдныя ветэраны, якіх хлусьнёй і падманам накшталт таго, што БНФ хоча перайменаваць плошчу Леніна ў плошчу Пілсудзкага, прыцягнулі ў гэты пікет.

Стаялі там і сытыя камсамольцы з плакацікам-просьбай да дэпутатаў гарсавета, каб тыя паклапаціліся аб маральным і матэрыяльным становішчы моладзі.

Цяпер надыйшоў той момант, калі ўсім беларусам трэба канчаткова вызначыцца: альбо стаяць маўклівым волатам на каленях і слухаць байкі камуністычных авантурыстаў аб добрым жыцьці і дурнавата ўсьміхацца на зьдзекі, альбо ўзьняцца ва ўвесь рост, скінуць усіх захрыбетнікаў і змагацца за беларускасьць, за сваю дзяржаўнасьць і годнасьць, за сапраўдны дабрабыт народа.

## «МЫ, ПРАВЫЯ НАЦЫЯНАЛ-РЭВАНШЫСТЫ...»

**Інтэрв'ю з кіраўніком Беларускай Нацыяналістычнай Арганізацыі "ПРАВЫ РЭВАНШ"(БНА "ПР") Славамірам Адамовічам.**



**Карэспандэнт:** Не пасьпеў аціхнуць скандал з "Новай народнай газетай", на адрас якой "Правы Рэванш" быццам бы даслаў пагрозьлівы ліст, як па Менску папаўзлі чуткі, што на адну са сталічных фірмаў баевікі вашай арганізацыі зрабілі налёт. Гэта сапраўды былі вашы людзі альбо тут ізноў плёткі?

**Славамір Адамовіч:** БНА "ПР" структуравана на прынцыпе "пяцёрак" - актыўна-сілавых каманд. "Пяцёркі" выконваюць заданьні Цэнтра. У той жа час яны могуць дзейнічаць і аўтаномна, рэалізуючы свае ўласныя планы, якія, аднак, не павінны супярэчыць стратэгічным задачам "Правага Рэваншу". У адну з такіх "пяцёрак" паступіў сігнал, што "каўказцы" зарваліся і не жадаюць плаціць беларускім рабочым за пэўны аб'ём выкананай імі работы. Больш таго, беларусам пагражалі фізічнай расправай. Хлопцы з "ПР" не маглі не дапамагчы сваім адзінакрэўнікам. "Чарнату" паставілі на месца. І гэта быў наш першы званок гастралёрам з гарачых кропак, якія памылкова прынялі Беларусь за Рыа-дэ-Жанэйра. Яны забыліся, што куля - яна і ў нас куля. А штык, як вядома, маладзец. У выпадку, калі "госьці" не захочуць зразумець па-добраму, што ў Беларусі беларусаў трэба паважаць.

**К.:** Але ж хіба мы ня маем новай улады, якая абяцала ліквідаваць карупцыю, абараніць нас ад крыміналу?

**С.А.:** Не! Мы маем над сабой палітычную мафію, маем над сабой хама! Таму адстойваць свае правы грамадзянам прыйдзецца самім. А тое, што адсутнасьць моцнай і сапраўды беларускай улады разьвязвае рукі рознай набрыдзі, дык гэта відавочна. "Правы Рэванш" пачаў адсочваць дзейнасьць небеларускага элементу з Закаўказьзя, Сярэдняй Азіі, Каўказу... Адна з асноўных задач нашых "пяцёрак" у Берасьці, Горадні, Гомелі, Віцебску - паставіць пад свой кантроль як палітычных апанентаў, якія прагнуць скасаваньня Беларускай Дзяржаўнасьці, так і антыбеларускі крымінальны пантэон. Усе гэтыя махмуды, мураты, мухтары ды іншы азіяцкі зброд павінен ведаць, што і беларускае цярпеньне мае свае межы.

**К.:** Слухаючы вас, мне робіцца страшна...

**С.А.:** Хіба? Мне, напрыклад, страшна назіраць той факт, што Міністэрства юстыцыі Беларусі зарэгістравала ўжо каля дзесятка выяўна антыбеларускіх арганізацыяў, а вось рэгістрацыю БЗВ скасавала; што мая нацыя перастала прырастаць маладымі пакаленьнямі і катастрафічна старэе; што зьнішчаюцца апошнія праявы традыцыйнай беларускай культуры, замест якой нам упарта падсоўваюць "дэмакратычныя свабоды" для сэкс-меншасьцяў і порна-культ для пралетарскай большасьці.

**К.:** Вашу арганізацыю называюць фашысцкай. Што вы на гэта скажаце?

**С.А.:** Правых падобным чынам абзывалі заўсёды. Асабліва гэта ўмеюць рабіць камуністы, лібералы з дэмакратамі, сіяністы і проста людзі, якія карыстаюцца чужым мысьленчым апаратам. Мы не баімся ярлыкоў.

**К.:** Дык чаго ж хоча "ПР"? Чаго ён патрабуе?

**С.А.:** Мы патрабуем дысцыпліны і беларускага парадку. Мы патрабуем прыняцця Закону, які ўзяў бы пад ахову сьвяшчэннае права Беларускай Нацыі на самаразьвіцьцё на этнічнай тэрыторыі. Мы патрабуем ад сёньняшніх уладаў няўхільна захоўваць правы кожнага асобнага беларуса. Зрэшты, "Правы Рэванш" гэтым ужо займаец-



КАНФЭСІІ

# ВОСЬ ВАМ І «ЦАРКОЎНАЕ СЛОВА»

**У чарговым нумары “Царкоўнага слова” (N 8 за гэты год) прыцягнуў увагу артыкул Я.Хмялеўскага “Калі схлыне мутны паток нечысьціні з газетных старонак?” Згодзен з аўтарам артыкула: калі схлыне гэты паток? Праблема, якую спрабуе вырашыць аўтар, заслугоўвае ўвагі на дзяржаўным узроўні. Так, сапраўды, “ядавітая галава брыдот - газеты, часопісы, розныя ”жоўтыя" выданьні, якія імкнуцца як мага глыбей разбэсьціць чалавека, грамадзтва..."(маецца на ўвазе іх парнаграфічная і эратычная накіраванасьць - Я.Т.) не павінны сёньня захапіць душы і розум людзей. Але, калі такое адбываецца ў краіне, то гэта трэба разглядаць як прымітыўны прыём уладаў адцягнуць увагу маладых людзей ад важкіх штодзённых праблем палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцьця. Вельмі знаёмы прыклад, які некалі афішавалі савецкія палітворганы, калі мелі на ўвазе разбэшчаны “дзікі Захад”.**

Сёньня з прыходам капіталізму, прыходзіць да нас і капіталістычны лад жыцьця (абмяжуемся рамкамі аўтара): “жудаснікі” і парнаграфічныя фільмы на камерцыйным канале бруду", “эмануэлі”, “афіцыйныя выданні, як, напрыклад, ”Рэспубліка" ці “Народная газета”, якія “таксама сталі прапаведнікамі гэтай мярзоты”. Пасьля папярэджаньня, што чакае чалавецтва наперадзе праз такую дзейнасьць і адпаведныя паслугі: “ніякія долары не дапамогуць займець сям’ю і дзіця, не ўратуюць ад цяжкіх хвароб і анамалій, якія могуць цягнуцца за грахоўнай істотай з жыцця ў жыццё”, аўтар ставіць вельмі цікавае рытарычнае пытаньне: “Ці гэта абвяшчэнне новых канцэпцый Беларускага парламента аб выхаванні нацыянальных рысаў характару грамадзяніна Рэспублікі Беларусь?!”

Вось тут, калі ўлічыць адносіны ўладаў да нацыянальнага выхаваньня, то можна сказаць толькі адно: усё можа быць... чым чорт не жартуе...

Яшчэ раз падкрэсьлім, што праблемы, якія аўтар узьнімае ў артыкуле, сапраўды заслугоўваюць увагі, і з гэтым нельга не пагадзіцца. Але разам з тым вельмі цікавую даведку ён імкнецца давесьці ў наступнай цытаце: “Дзякуючы таму, што знайшліся сумленныя людзі, не пісьменнікі і паэты, ці рупліўцы нацыянальнага адраджэння, а звычайны просты люд, якія доўгі час ”бамбілі" Вярхоўны Савет пісьмамі, тэлеграмамі і тэлефоннымі званкамі аб забароне..." (таго, пра што мы казалі вышэй - Я.Т.) Атрымліваецца, што пісьменьнікі і паэты, ці рупліўцы нацыянальнага адраджэньня - людзі не сумленныя. Відаць не зусім уважліва сочыць Я.Хмялеўскі за пасяджэньнямі сесіяў Вярхоўнага Савета, а інакш пачуў бы ён выступы некаторых дэпутатаў, у тым ліку і паэтаў, і пісьменьнікаў, і рупліўцаў адраджэньня на падобныя тэмы. А калі б яшчэ аўтар больш уважліва чытаў і афіцыйныя выданьні, то ўбачыў бы, што тэма гэтая - ня новая на старонках газет. Дарэчы, варта было б пачытаць Я.Хмялеўскаму і такія выданьні як “Літаратура і Мастацтва”, “Культура”, “Наша слова”, “Свабода”, “Спадчына”, “Роднае слова” і іншыя гістарычна-культурныя выданьні, каб ведаць гісторыю і культуру таго “звычайнага простага люду”, каб ня блытаць парнаграфію з нацыянальным адраджэньнем. Бо як інакш можна растлумачыць такую цытату: “Парнаграфію прадаюць у электрычках і на вакзалах, сэкс у горшых яго праяўленнях мы бачым з экрана, а за пяць гадоў на лаву падсудных селі толькі 12 чалавек, ды і тыя папаліся зусім на іншай справе. Вось вам і нацыянальнае адраджэнне...”

Вось вам і такая цытата... А ты, чытач, разумей, каго ў шматкроп’і трэба вінаваціць.

Можна было б зразумець аўтара, калі б уся гэта парнаграфія была выключна на беларускай мове, а сэкс мы глядзелі б з экранаў у нацыянальных беларускіх праявах, а прастытуткі зачытваліся б газетай “Свабода” і размаўлялі толькі на мове Купалы і Тарашкевіча, а 12 чалавек апынуліся на лаве падсудных за тое, што замест фігавага лістка на голых беларускіх жанчынах не здагадаліся намаляваць Пагоню...

Але, як вядома шаноўнаму аўтару, нічога падобнага і зблізку няма. І тая парнаграфія, і тыя відэа-кіна-тэлефільмы прыходзяць на Беларусь на расейскай мове, альбо на гэтай жа мове выдаюцца тут. Можа аўтар у выдавецтве гэтай порна-чарнухі падазрае Ніла Гілевіча ці Зянона Пазьняка?

Безумоўна, трэба штосьці рабіць з гэтай “порна”- навалай. Але што? Дык можа Праваслаўная Царква на Беларусі зрабіла афіцыйны запыт да вярхоўнай улады аб забароне падобнай літаратуры і пракату фільмаў? Можа тое самае зрабіў і Каталіцкі Касьцёл? Але што тады прапануецца наўзамен? Можа праваслаўныя і каталіцкія цэрквы забясьпечаць кожнага жадаючага па даступных цэнах хрысьціянскай літаратурай, такой неабходнай сёньня? Гляньце ў шапіку, каля Катэдральнага сабора ў Менску, колькі каштуе такая літаратура. Яе ня змогуць купіць ня толькі школьнікі і студэнты, але і работнікі народнай адукацыі, культуры, медыцыны. А каму ж яна больш патрэбна, як ня ім!

Як ня дзіўна, але сёньня мы з’яўляемся самай неадукаванай нацыяй у сьвеце ў пытаньнях хрысьціянскай маралі і хрысьціянскай філасофіі, царкоўнай дагматыкі і багаслоўя, - бо ня маем зразумелых у сваёй мове ні цэркваў, ні касьцёлаў, ні літаратуры, ні адпаведных вучэльняў. Тое, што гэта не хвалюе наш урад - гэта адно пытаньне. Але чаму гэта не хвалюе місіянераў з Польшчы і з Расеі?

А народ тым часам усё больш і больш траціць свае боскія і чалавечыя якасьці, народ, які даведзены да такога стану, усё больш і больш робіцца дзікім, і, калі ў народа нічога не застаецца сьвятога за душой, - вымірае народ.

Ці такі стан рэчаў задавальняе духоўнікаў? Бо такі народ значна лягчэй падмануць. Ён сапраўды можа паверыць у тое, што і ў парнаграфіі і ва ўсіх грахах зямных вінавата нацыянальнае адраджэньне. Чаму так часта на старонках “Царкоўнага слова” гучаць дакоры і абразы ў адрас Народнага Фронту і яго прадстаўнікоў, у адрас тых, хто хоча ўратаваць беларускі народ ад сьмерці і фізічнай і духоўнай? Ня хочацца лішні раз згадваць непрыемнае і прыводзіць факты - яны не на карысьць “Царкоўнага слова”. З усяго гэтага ўзьнікае цікавае пытаньне: каму гэта так выгадна сёньня забіць клін паміж звычайным простым людам і рупліўцамі нацыянальнага адраджэньня? Няўжо ў гэтых палітычных гульнях прымае ўдзел і Праваслаўная Царква?.. Калі так, то гэта ня робіць ёй гонару, калі не, дык як тады растлумачыць на старонках беларускай праваслаўнай газеты Менскай эпархіі тэксты, якія не зусім адпавядаюць “любові да бліжняга” і часам бываюць вельмі далёкія да Слова Царкоўнага?..

Можа ня ведаюць, што робяць?..

А пакуль што застаецца адно: спадзявацца на Божую дапамогу і на тое, што займецца газета сваёй сьвятой справай, справай уратаваньня чалавечых душаў і будзе вышэй за ўсякія палітычныя і нацыянальныя амбіцыі. Дарэчы, такой і павінна быць газета, рэдактарам якой з’яўляецца праваслаўны сьвятар, і якая “выдаецца па благаслаvenню Яго Высокапраасвяшчэнства мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта, патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі”.

Дай, Божа, ім розуму.

**Янка ТРАЦЯК.**



## ПАДНЯЛІ З ЗАНЯПАДУ

Многія дзесяцігоддзі ў вёсцы Кашубінцы Гарадзенскага раёна існавала каталіцкая эпархія, а разам з ёй дзейнічаў і касьцёл.

Але калі прыйшлі ў 1939 годзе Саветы, касьцёл быў закрыты. За драўляным будынкам касьцёла ніхто не даглядаў. Здавалася, што лёс будынка касьцёла вырашаны - ён вось-вось згніе і рухне. Па патрабаваньню вернікаў касьцёл перадалі Гарадзенскай каталіцкай эпархіі. Яго адрамантавалі ў самыя сьціплыя тэрміны. Цяпер касьцёл не пазнаць.

На здымку: будынак касьцёла ў в.Кашубінцы.

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

## ЯК СТО ДАЛЯРАЎ СПАКУСІЛІ СЬВЯТАРА

Днямі, да рэдакцыі “Пагоні” завітала Галіна Аляксандраўна Бертэль. Галіна Аляксандраўна не працуе. Жыве, як кажуць, чым Бог паслаў. Сын спадарыні Бертэль зэміграваў да Ізраілю, але маці не забывае. Таму і перадаў праз сьвятара Валяньціна з Зэльвы, які быў з праваслаўнай місіяй у Іерусаліме, сто амерыканскіх даляраў. Даляры бацюшка ўзяў, а вось перадаць адрасату чамусьці забыўся. Напамінала Галіна Аляксандраўна сьвятару пра грошы. Чакала, што той верне іх. Час ішоў, а перададзеных сынам даляраў жанчына так і не дачакалася. Зьвярнулася з прозьбай да мітрапаліта Філарэта. Ўладыка абяцаў дапамагчы, разабрацца. Пакуль Уладыка думаў, як узьдзейнічаць на падначаленага, таго з Гарадзенскай праваслаўнай эпархіі перавялі на іншае месца службы. Куды, Галіна Аляксандраўна ня ведае. Але спадзяецца, што мітрапаліт Філарэт адшукае злодзея-сьвятара, ці хоць загадае выплаціць грошы з касы Праваслаўнай царквы, бо вельмі ўжо патрэбны сродкі для Г.А.Бертэль. Мае яна на ўтрыманьні дачку, якая год таму страціла працу, ды ўнукаў.

**Г.БЕЛАСТОЦКІ.**

**P.S.** Як закончацца пошукі сьвятара-ашуканца, газета “Пагоня” абавязкова паведаміць сваім чытачам.

## ІНАЎГУРАЦЫЯ НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

У Малой Базыліцы - Фарным касьцёле Горадні адбылася інаўгурацыя новага навучальнага года духоўнай каталіцкай семінарыі, інстытута катэхізісу і нядзельнай школкі.

Сёлета студыі ў духоўнай семінарыі распачалі 24 семінарысты, да інстытута катэхізісу залічана каля 30 чалавек.

З нагоды пачатку новага навучальнага года навучэнцаў прывітаў біскуп Гарадзенскай каталіцкай эпархіі А.Кашкевіч.

## ТЫДНЁВАЯ ІМША МІСІЯНЕРАЎ

Гарадзенская каталіцкая дыяцэзія, пачынаючы з панядзелка, праводзіць тыдзень місіянераў. На працягу гэтага часу ва ўсіх касьцёлах дыяцэзіі адпраўляюцца сьвятыя службы ў гонар місіянерства. Таксама вернікам сьвятарамі кажуцца пропаведзі, аповяды пра жыццё і дзейнасьць знакамітых прапаведнікаў Рымска-каталіцкай царквы ў сьвеце.

**Г.Д.**

ца. Мы таксама патрабуем правядзеньня Суда Нацыі над камуністычна-савецкім рэжымам і яго пасьледкамі, каб раз і назаўсёды ліквідаваць пагрозу нутраной нацыянальнай здрады.

**К.:** Вы гаворыце толькі пра правы беларусаў, а як жа быць з правамі прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў?

**С.А.:** Няма ніякіх прадстаўнікоў! На нашай тэрыторыі жывуць грамадзяне беларусі, асобы без грамадзянства і асобы з грамадзянствам іншых краінаў, а таксама жыды. Усе іншыя размовы пра “правы польскай меншасьці”, якіясь “асобныя правы” для рускіх у Беларусі, і іншае - гэта ад нячысьціка. Мы будзем працаваць, зважаючы на патрэбы грамадзяніна Беларусі, які ў сваю чаргу зважае на правы і волю карэннай нацыі. Апошнім часам “Правы Рэванш” пабываў у некаторых рэгіёнах краіны, дзе сустракаўся з беларусамі самых розных лёсаў. Карыстаючыся выпадкам, не магу не згадаць жыхарак м.Семежава сёстраў Веру і Марыю Сяродаў, Марыю Іванаўну Туісаву (Сераду), якія ў 1935 г. разам з бацькамі былі высланы ў Архангельскую вобласьць, і Міхаіла Іванавіча Курпана, семежаўца, былога савецкага салдата, які ў складзе 329-й зьнішчальнай супрацьтанкавай брыгады прайшоў ІІ-ую сусьветную ці для таго, каб па яе сканчэньні атрымаць ад савецкай улады 25 гадоў турмы “за палітыку”, 10 з якіх ён адсядзеў. Міхал Іванавіч прасіў мяне напісаць куды-небудзь, каб вярнулі яго баявыя ўзнагароды. Для ўнукаў, каб запомнілі, што дзед іх быў сьмелым салдатам. Не магу не згадаць і прозьвішча Алены Яголды, яшчэ адной мужнай беларускай жанчыны, мужнай у змаганьні з суровымі нягодамі жыцьця. Яе брата савецкая служба дзяржбясьпекі замардавала ў канцы 50-х, ёй самой камуністычны рэжым закрыў дарогу ў медінстытут, бо не хацела быць камсамолкай. Ёй, беларусцы, Алене Яголдзе, якая з такой любасьцю ў хвіліны рэдкага адхланьня цытуе па памяці беларускага паэта Ўладзіміра Дубоўку!.. Вось для такіх беларускіх людзей “Правы Рэванш” і патрабуе правоў на дастойнае жыцьцё.

**К.:** Раскажыце крыху пра сябе, так бы мовіць, некалькі штрыхоў да біяграфіі.

**С.А.:** Нарадзіўся ў 1962-ім годзе на ст.Унежма Архангельскай вобласьці. Паходжу з даўніх беларускіх родаў Чантарыцкіх, Роўдаў і Адамовічаў-Нарбутавых. Філолаг па адукацыі, хрышчаны ў Даўгінаўскім касьцёле. Да пары да часу глядзеў на сьвет Божы вялікімі наіўнымі вачыма. Цяпер я - чалавек гульні.

**К.:** А не баіцёся, што можаце прайграць?

**С.А.:** Гэта немагчыма, паколькі мой выбар - стаўка на пройгрыш. Так мне падказвае інтуіцыя: прайгравай сёньня, каб выйграць заўтра, альбо: рабі так, каб за табой заставалася апошняе слова. І потым, у мяне ёсьць мая літаратура, паэзія, мае каханыя жанчыны, якія заўсёды дадуць мне адыграцца.

**К.:** Ці можна ў бліжэйшы час чакаць новых акцыяў “ПР”?

**С.А.:** Іх трэба чакаць кожную хвіліну, кожны дзень... А калі гаварыць сур’ёзна, то наступнай шырокамаштабнай акцыяй “Правага Рэваншу” супольна з іншымі нацыяналістычнымі арганізацыямі павінен стаць Першы Зьезд Беларускіх Нацыяналістаў, які пройдзе ў канцы лістапада ў Віцебску, мэта якога рэпрэзентаваць альянсу носьбітаў беларускай нацыяналістычнай (нацыянальнай) ідэі як адзінай сілы, здольнай спыніць і ліквідаваць перманентны антыбеларускі рух на нашай тэрыторыі.

**Падрыхтаваў Рыгор ЗЭС.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** друкуючы гэты матэрыял, рэдакцыя не пагаджаецца з некаторымі меркаваньнямі і ацэнкамі, выказанымі ў ім. Але хочам, каб чытачы, прачытаўшы яго, мелі ўяўленьне, што такое “Правы Рэванш”, бо апошнім часам аб гэтай арганізацыі шмат пісалі і гаварылі, не ведаючы сутнасьці справы.

# «РЫМ-5» У ТРОКАХ

**У Троках адбылася чарговая канферэнцыя "Рым-5", на якую з'ехаліся навукоўцы з Беларусі, Летувы, Польшчы і Украіны. Упершыню яны сустрэліся ў Рыме ў 1990 годзе, дзе, благаслаўлёныя Сьвятым Айцом Янам Паўлам II, абмеркавалі пытаньні супольнай гісторыі, утварылі камітэт да спраў каардынацыі дасьледаваньняў. Наступны "Рым" адбыўся ў Любліне, "Рым-3" - у Камянцу-Падольскім, 4 - у Горадні, і вось нарэшце ён завітаў і ў Летуву. Муры старога Троцкага замка, здаецца, самі спрыялі абрадам. Пасьля заканчэньня я сустрэўся з менскім прафесарам спадаром Адамам Мальдзісам.**

- Калі падчас "Рыму-4" у Горадні мы ў большай ступені гаварылі пра беларуска-летувіска-польска-украінскае памежжа, ды пра тое, што належыць зрабіць, каб яно ўзбагачалася і не вяло да канфліктаў, - сказаў прафесар, - дык у Троках мы абмяркоўвалі спадчыну Вялікага Княства Літоўскага, і зноў жа ў той плоскасьці, каб праз гэтую спадчыну збліжацца, узбагачацца, каб не вяла яна да канфрантацыі.

**- Дыскусіі, відаць, былі даволі бурлівыя, бо ў прэсе ў невялікіх, што праўда, інфармацыях паведамлялася, быццам беларускі бок меў гістарычныя прэтэнзіі да летувісаў.**

- Тыя інфармацыі - мы чыталі іх падчас канферэнцыі - гэта пэўнае непаразуменьне. Адзін польскі навуковец сказаў, напрыклад, што украінцаў і палякаў нішто, апрача гісторыі, ня дзеліць. Я ж у сваю чаргу падкрэсьліў у сваім рэфераце, што беларусаў і летувісаў нішто так не зьвязвае, як гісторыя, наша супольная спадчына.

**- Ці гэтая спадчына ўвогуле непадзельная?**

- Я яе падзяляю на тры групы. Чыста беларуская - гэта перш за ўсё Скарына, Будны, Цяпінскі і іншыя. Да гэтага летувісы ня могуць мець аніякага дачыненьня, так сама, як і беларусы, калі гаворка ідзе пра спадчыну, скажам, да Мажвідаса, Даўкшы... Гэта ўжо дамэна летувісаў. А ёсьць і супольная спадчына, якую падзяліць нельга. Скажам, летапісы ВКЛ, ягоныя Статуты. Тэндэнцыі падзелу, трэба гэта прызнаць, існуюць. Статуты паўставалі, як вядома, у патрыятычным летувіскім асяроддзі, але напісаныя старабеларускай мовай. Вучоныя ўсяго сьвету прызнаюць гэта, ды і нельга гэта не прызнаць. Гэта толькі самыя простыя прыклады. І трэба вельмі далікатна і аб'ектыўна ставіцца да такіх праблемаў.

**- Згодзен, але ж паўстаюць і спрэчныя пытаньні...**

- На жаль. І зноў жа ў падобных выпадках мы павінны шукаць такія моманты, якія б нас яднала, а не дзялілі. Пра гэта я ўвесь час і гаварыў на канферэнцыі. Мы маем прыклады сёньняшняга дня. Яблыкам нязгоды з'яўляюцца ў гэты момант Гадуцішкі. Спрэчным пытаньнем застаецца санаторый у Друскеніках або беларускі музей у Вільні. Ці, напрыклад, збудаваны нядаўна цэнтр летувіскай культуры ў Рымдзюнах на Беларусі. То з аднаго то з другога боку можна пачуць галасы, што гэта летувіская ўласнасьць, або што беларуская. Я прапаную вельмі простае рашэньне, што тычыцца, Гадуцішкаў: зрабіць гэтую чыгуначную станцыю супольнай уласнасьцю. Няхай будуць два дзяржаўныя сьцягі, два кіраўнікі. Тое ж самае датычыцца і іншых аб'ектаў. Я быў нядаўна ў Рымдзюнах. Цудоўны цэнтр культуры, збудаваны летувісамі. І што? А нічога. Стаіць амаль пусты. Адзін бок гаворыць, што гэта павінна быць уласнасьць Беларусі, бо на беларускай зямлі збудаваны, другі - што летувіская, бо збудаваны за летувіскія грошы. А можа нейкім чынам зрабіць яго супольнай уласнасьцю? Прыклады таго ўжо ёсьць на сьвеце. Гэтак сама і ў дачыненьні да беларускага музея ім.Луцкевічаў, пра аднаўленьне якога ўжо даўно вядзецца гаворка. У Менску ёсьць матэрыялы з гэтай пляцоўкі, якія пасьля вайны апынуліся ў нас і якія трэба аддаць. І няхай гэта будзе супольная ўласнасьць, такі свайго роду культурна-інфармацыйны асяродак, які будзе нас аб'ядноўваць. Бо калі надалей фарсаваць толькі свой пункт гледжаньня, дык можна у справе Гадуцішкаў, напрыклад, дайсьці да непрыемных момантаў. Гэта небясьпечны шлях, і нашыя дыпламаты павінны вырашаць такія пытаньні паэўрапейску, калі мы ўжо крочым у Эўропу, што б там пра нас ні гаварылі. Вось пра такія моманты ў гістарычным разрэзе я і гаварыў на канферэнцыі "Рым-5" у Троках, якая была прысьвечана, як я ўжо казаў, нашай супольнай спадчыне. Агульнае ж уражаньне з абрадаў добрае. Падкрэсьлівалася, што Вялікае Княства Літоўскае - гэта была поліэтнічная дзяржава, што дамінуючым элементам быў тут элемент славянскі, што тэрміналогія бывае часам небясьпечнай рэчай, бо калісь, напрыклад, паняцьце "Літва" было гістарычным паняцьцем, сёньня ж гэта ўжо паняцьце этнічнае, і трэба з гэтым і лічыцца, і пагадзіцца.

**- "Рым-5" - ужо гісторыя. Што далей?**

- Будуць наступныя. Ва ўсякім разе "Рым-6" напэўна. Мы дамовіліся, што падчас яго мы ў пэўным сэнсе зробім падсумаваньне, пакажам, якой з'яўляецца Эўропа напярэдадні 21 стагоддзя, якія ў нас ёсьць дасягненьні і страты. Новыя спатканьні - гэта заўсёды крок наперад. У Горадні, напрыклад, падчас "Рыму-4" мы абмеркавалі, як ужо сказана, нашае памежжа, удакладнілі, што належыць рабіць, каб яно ўзбагачалася, у Троках мы ацанілі нашу спадчыну з пункту гледжаньня народаў, а не канфрантацыі. "Рым-6", напэўна, прынясе новыя рашэньні, ва ўсякім разе спадзяёмся на гэта. Можа толькі яшчэ адна заўвага - мы, відаць, становімся крыху традыцыяналістамі. Справа ў тым, што патрэбныя новыя, маладыя сілы. Я гаварыў пра гэта калегам, і спадзяюся, што падчас наступных спатканьняў яны будуць.

**Размаўляў Уладзіслаў СТРУМІЛА,**
**Вільня.**

# ПОЛЬСКІ КОНСУЛ ПАЧЫНАЕ І ... ВЫЙГРАЕ

Невысокі, сымпатычны з дынамічнай паходкай чалавек з'явіўся ў рэдакцыі "Пагоні" і адрэкамендаваўся: "Мар'януш Машкевіч, консул Рэспублікі Польшча ў Горадні. Шукаю самастойна сабе жыльлё. Па рэкамендацыі віленскіх беларусаў зьвярнуўся да вашай рэдакцыі за дапамогай."

- А што ж улады?

- Улады горада прапануюць мне, як кажуць, ня тыя варыянты. Я ж жадаю мець катэдж з пляцам, дзе мог бы адпачываць, прымаць дэлегацыі, ладзіць афіцыйныя сустрэчы.

Адзіны званок у офіс МГК "Маналіт" вырашыў пытаньне, якое гарадзенскім уладам неставала сілы адужаць. Прэзыдэнт МГК "Маналіт" С.Буйніцкі прапанаваў першаму замежнаму дыпламату ў Горадні добры дом, дзе ёсьць басэйн, саўна, а галоўнае, што спадабалася Мар'янушу, - гэта вялікая, на 120 кв. метраў, зала. За філіжанкай кавы абмяркоўвалі ўмовы. Канцэрн добраўпарадкуе памяшканьне, двор, забясьпечыць консула гаражом з аўтастаянкай. Мэблю, дываны ды іншае консул прывязе з сабою з Вільні, дзе да гэтага працаваў у пасольстве.

У Горадні консула Рэспублікі Польшча чакае шмат працы. Неабходна атрымаць ад уладаў будаўнічую пляцоўку на ўзвядзеньне консульства. Дзе будзе гэтае месца, пакуль ніхто ня ведае. Праўда, Саюз палякаў на Беларусі робіць захады ў гэтым накірунку. Мае свае прапановы і кіраўніцтва МГК "Маналіт". Спадар Станіслаў Буйніцкі пацьвердзіў, што яго прадпрыемства ўжо падабрала адмысловае месца на будоўлю консульства. Таксама "Маналіт" гарантуе з якасьцю і ў тэрмін здаць будынак "пад ключ". Свае прапановы спадар Буйніцкі абгрунтаваў тым, што яго фірма сьпецыялізуецца на будаўніцтве і мае ня толькі патрэбны вопыт, а і спецыялістаў. Консул прыняў прапановы прэзыдэнта МГК "Маналіт", але з агаворкай, што усёткі ў Горадні будзе конкурс паміж мясцовымі і замежнымі будаўнічымі арганізацыямі за права атрымаць мандат даверу на будоўлю.

**Г.А.**

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Даўгі Летувы дасягнулі паўмільярда даляраў ЗША. Хутка яны павялічацца яшчэ. Эўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцьця дасьць крэдыт у 37,6 мільярда даляраў для аднаўленьня дарог транспартнага калідора "Усход-Захад" - ад летувіскага порта Клайпеда ў напрамку Менска. Эўрапейскі інвестыцыйны банк хутка выдзяліць 10 мільёнаў ЭКЮ на мадэрнізацыю Віленскага аэрапорта.

* * *

Украіна стала трэцяй краінай былога СССР (пасьля Расеі і Эстоніі), якая аднавіла сталыя паветраныя зносіны з Летувой. Нядаўна адкрылася новая авіялінія Вільня-Кіеў. Кошт білета ў адзін бок складае 80 даляраў ЗША.

* * *

Новую тытунёвую фабрыку ў прыгарадзе Клайпеды мае намер пабудаваць амерыканская кампанія "Philip Morris". Будаўніцтва пачнецца сёлета, а скончыцца праз паўтара-два гады. На прадпрыемстве будуць працаваць каля 600 чалавек і будуць вырабляцца, акрамя летувіскіх, цыгарэты міжнародных марак: "Marlboro", "Bond Street" і іншыя.

З дапамогай фабрыкі "Philip Moris" мае намер актыўна пашырыць экспарт, асабліва ў краіны Балтыі і СНД.

* * *

У Вярхоўным судзе Летувіскай Рэспублікі пачаўся працэс па справе аб забойстве 12 кастрычніка 1993 года намесьніка рэдактара і аднаго з заснавальнікаў газеты "Рэспубліка" Вітаса Лінгіса, які быў застрэлены ля свайго дома. Ён шмат пісаў пра мафіёзныя структуры. Мяркуецца, па іх загаду ён і быў забіты.

Упершыню ў практыцы Вярхоўнага суда Летувы справа разглядаецца трымя суддзямі. Абвінавачаньне падтрымлівае Генеральны пракурор рэспублікі.

Будынак і зала суда ахоўваецца аўтаматчыкамі сьпецназа, уваход толькі па сьпецпрапусках, усіх, хто ўваходзіць абшукваюць.

**МГ**

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Свой чарговы канцэртны сезон прэзэнтацыяй новай творчай праграмы на ўсепольскім з'ездзе педыятараў распачаў дзіцячы хор пры праваслаўным Саборы сьвятога Мікалая ў Беластоку.

У хоры сьпяваюць 55 дзетак. Яго канцэртную праграму складаюць выключна праваслаўныя сьпевы і беларускія народныя песьні.

Сёлета юныя сьпевакі з Беластоку плануюць пабываць на фестывале рэлігійнай песьні ў расейскім горадзе Рыбінску, дзе, дарэчы, існуе адзіная музычная рэлігійная дзіцячая школка.

* * *

На Беласточчыне прайшлі шкаленьні войскаў грамадзянскай абароны "Падляшша-94". На шкаленьнях бралі ўдзел самыя высокія чыны з афіцэраў Войска Польскага, а таксама прадстаўнікі Беластоцкага ваяводзтва. Мэтай вучэньняў была праверка гатоўнасьці мясцовых кадраў самакіраваньня разам з дырэктарскім корпусам да дзеяньняў падчас вайны.

Цікава, якой вайны і з кім?

* * *

Кіраўніцтва вузкакалейкі ў Гайнаўцы паведаміла, што невядомыя зламысьнікі скралі паўкіламетра рэяк на шляху "Рыбакі". Раней невыяўленыя зламысьнікі скралі бадай 700 метраў рэяк з іншых шляхоў. Вартасьць скрадзенага сягае 50 мільёнаў злотых.

* * *

У гарадзкім амфітэатры Гайнаўкі адбыўся невялікі беларускі фэст. Яго адкрыў Міхал Голуб, гайнаўскі дзеяч ГКТ. Ён прывітаў гасьцей, прадстаўнікоў улады і публіку.

Затым адбыўся канцэрт Гайнаўскага гарадзкога хору беларускай песьні. У заключэньні выступіў народны тэатр музыкі і гульні "Крынічка" з Кобрына, праграму якога склалі палескія песьні і гульні.

* * *

Каля 67 працэнтаў жыхароў Беластока маюць у кватэрах тэлефоны, а ва ўсім ваяводзтве зарэгістравана 105 тысячаў абанентаў. У 1993 годзе беластаччане правялі 27 мільёнаў размоў у аўтаматычным руху і таксама тры мільёны размоў праз замовы на тэлефонных станцыях.

* * *

У Васількове са званіцы царквы сьвятога Пятра злодзеі скралі 15-кілаграмовы звон вартасьцю 20 мільёнаў злотых.

* * *

Адзначыла 42-ю гадавіну свайго існаваньня радыё Беластоку. З гэтага выпадку па першай праграме дзяржаўнага радыё Польшчы быў абвешчаны Дзень радыё Беластоку.

* * *

Беластоцкі дэпутат Кшыштаў Вольфрам (Вунія Вольнасьць) накіраваў прэм'ер-мінітру запыт у справе кантрабанды дзікіх жывёл з Усходу. На думку дэпутата, памежная служба неадпаведна ставіцца да ветэрынарных дакументаў, якімі маніпулююць "уладальнікі" таго ці іншага гатунку фаўны. На думку дэпутата, Польшча стала месцам транзіту паміж гандлярамі жывёльным сьветам Усходу і Захаду.

# ГЛУХОМУ НЕ СКАЖАШ, СЛЯПОМУ НЕ ПАКАЖАШ...

**Такой толькі прымаўкай магу каментаваць шмат якія "Віленскія паведамленьні". Некалі я ўжо пісаў, што "ЛЕТУВІС"- гэта штучны наватвор . Але вы ўжываеце яго таксама ўпарта, як Пётра Васілеўскі "жамойтаў" ці "Жамойць" у "ЛІМе". У ягоным выпадку памылка геаграфічная - ён замяняе назву краіны толькі адной пятай яе часткай - як бы Грэцыю назваць Македоніяй, а грэкаў - македонцамі, беларусаў - палешукамі, а палякаў - мазурамі ці кашубамі.**

Паколькі "Пагоня" выдаецца на беразе Нёмана, вы ведаеце, што жамойцкая тэрыторыя не датычыць берага нашай супольнай ракі, але ў вас - лінгвістычная памылка. Усе нашыя словы ваша мова прымала асімілюючы іх граматычна, бо суседзі суседзяў добра ведалі і адрознівалі, дзе корань, дзе канчатак - корань прыймаўся, канчатак замяняўся, і захоўваўся дыялектычны дух мовы ( змест інтэрнацыянальны, а форма - нацыянальная). У вашым выпадку атрымаўся недапечаны монстр, які ўжываць можна толькі ў адмоўным кантэксце, як гэта Г.Астроўскі піша пра таго, хто па пашпарту не летувіс ("Ад штурвала за баранку") - хаця я па пашпарту таксама не летувіс і здзекваюся з тых, якія "больш роўныя за роўных" і пажадалі татуіраваць свае пашпарты штэмпелем - удакладненнем нацыянальнасці, хаця дзеля гэтага не трэба ніякай генеалагічнай даведкі.

Слова ЛЕТУВІС пярэчыць духу мовы, яно - як костка ў горле, не засвоенае. Можа гэта адпавядае вашай патрэбе адмежавацца ад суседзяў, так мовіць, лінгвістычная дэмаркацыя, але ці вам не шкада бэсціць вашу прыгожую мову, якую Юзас Рыбікаўскас у сваім вершы назваў "маёй ты мовы родная сястра", каб толькі ўпікнуць сваіх жа крэўнякоў? Ці не ў Горадні сто год таму Заменгоф стварыў прымаўку на мове эсперанта "Bato de fzato venas senkompato" - удар ад брата прыходзіць бяз літасці. Заменгоф спадзяваўся, што агульная нейтральная мова зьнішчыць непрыязнасць паміж народамі, але народам непрыязнасць аказалася даражэйшая за мову.

Я разумею розніцу між Літвой і Летувой. У кантэксце нашай супольнай гісторыі палітонім "Летува" у беларускай мове апраўданы. І ад гэтага слова можа пайсьці назва народа, жыхароў краіны - паводле правілаў словаўтварэння беларускай мовы, пры дапамозе беларускіх суфіксаў. Напрыклад - ЛЕТУВЕЦ - нацыянальнасць, ЛЕТУВАНІН - грамадзянства. Можна выбраць і іншыя суфіксы - маеце больш дзесяці прыгодных для гэтай мэты. Але ад слова ЛЕТУВІС не атрымаецца нічога жывога. Як напрыклад назваць жанчыну - ЛЕТУВІСКА? Гэтая дражнілка, якую невядома ў якім настроі там за бугром, далёка ад родных мясьцін падхапіў Вацлаў Пануцэвіч, гэта толькі анаматапея, гукаперайманне, дастойнае папугая ці дзіцяці, якое ўпершыню чуе нейкае слова. Мы таксама маглі б прыкінуцца дурнямі і ў слове БЕЛАРУС убачыць нашамоўны канчатак "УС" і пачаць называць вас БЕЛАРАМІ, а краіну вашу - БЕЛАРЫЯЙ, хаця здавён маем свойскія назвы ГУД (ас, э) і ГУДЫЯ. Але пакуль што палітычная каньюнктура спрые афіцыйнай назве БАЛТАРУС (іс, э) і БАЛТАРУСІЯ, што азначае БЕЛЫ РУСКІ і БЕЛАЯ РАСЕЯ. Жыве!

**Валдас БАНАЙЦІС.**
**Вільня.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** друкуючы гэты ліст у парадку дыскусіі, запрашаем да яе іншых мовазнаўцаў. Вынікам яе хацелі б мець узнаемапаразуменьне, якое заўсёды характэрызавала адносіны паміж нашымі народамі на працягу ўсёй агульнай гісторыі.





# ПРЫЙШОЎ ЧАС ЗЬБІРАЦЬ КАМЯНІ

## Да ўгодкаў Люблінскай вуніі 1569 г.

**У гэтым годзе патрыятычная беларуская грамадзкасьць адзначыла дзьве падзеі, якія маюць пэўнае дасягненьне да ўзьнікненьня і наступстваў Люблінскай вуніі. Гэта 480-ыя ўгодкі перамогі аб'яднанага войска Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) пад Воршай і двухсотгоддзе паўстаньня 1794 года пад кіраўніцтвам нашага земляка Тадэвуша Касьцюшкі. Дзякуючы шырокаму сьвяткаваньню гэтых знамянальных для беларускага народа падзей, якія на доўгія часы былі выкрэсьленыя з падручнікаў гісторыі Беларусі, фармаваньню новага беларускага менталітэту, уласьцівага для беларускага грамадзтва напярэдадні XXI стагоддзя, быў нададзены новы імпульс.**

**Люблінская вунія якраз ляжыць паміж гэтымі падзеямі і цесна зьвязана з імі.**

Вялікае Княства Літоўскае, якое пасьля разгрому крыжакоў пад Грунвальдам атрымала больш чым 50-гадовы перыяд мірнага існаваньня на велізарнай тэрыторыі ад Балтыйскага да Чорнага мора, нечакана для сябе ў канцы XV ст. сутыкнулася на Ўсходзе з вельмі сур'ёзным канкурэнтам - Маскоўскай Дзяржавай, якая ў гэты час вызвалілася канчаткова ад прыгнёту Залатой Арды і вельмі хутка ператварылася ў новую маладую імперыю.

Пасьля страты Смаленска ў 1513 годзе ВКЛ упершыню адчула сьмяротную пагрозу з боку ўсходняга суседа, і толькі перамога пад Воршай (з дапамогай польскага войска) часова спыніла варожую экспансію.

Аднак Лівонская вайна, асабліва пасьля страты Полацка, зноў нагадала аб сьмяротнай пагрозе з Усходу. Кіраўніцтва ВКЛ аказалася перад складанай дылемай: альбо пайсьці на няроўны саюз з Польшчай, перад гэтым згубіўшы папярэдне Падляшша і Украіну, альбо весьці і надалей самастойную вайну з Маскоўскай дзяржавай і згубіць пры гэтым Полаччыну, Віцебшчыну і Мсьціслаўшчыну, а потым і наогул свой суверэнітэт і незалежнасьць.

Можна па-рознаму ставіцца да ўмоў, падпісаных у Любліне, але нельга забываць аднаго. Ці існавала б цяпер наогул беларуская нацыя, калі б Масковія захапіла ВКЛ у XVI стагоддзі? Дастаткова толькі ўспомніць лёс самабытнай ноўгарадзкай культуры. Што засталося ад "господина Великого Новгорода" пасьля "этнічных чыстак", зробленых Іванам Жахлівым і яго папярэднікамі? Быў зьнішчаны самабытны ўсходнеславянскі этнас, які меў сваю архітэктуру, жывапіс, летапісаньне, устойлівыя рэспубліканскія традыцыі грамадзкага і палітычнага жыцьця. Прыкладна тое ж заваёўнікі зрабілі і з Казанскім ханствам, дзяржавай-спадкаемцай Вялікай Волжскай Булгарыі.

Пасьля Любліна войска новай дзяржавы - Рэчы Паспалітай - ня толькі выгнала захопнікаў з Полацкай зямлі, але і здолела далучыць да новай краіны Інфлянты і такім чынам пашырыць свой уплыў на Балтыйскім моры.

У канцы XVI-першай палове XVII ст. матэрыяльная і духоўная культура беларускага народа набыла новы ўздым. Былі створаны шматлікія архітэктурныя помнікі ў стылі рэнесансу і раньняга барока, запрацавалі новыя друкарні і гуты, шырока за межамі краіны сталі вядомыя вырабы беларускіх рамесьнікаў: кафляроў, ганчароў, шкляробаў, збраёўнікаў і разьбяроў па дрэву і косьці. У краіне пасьля прыняцьця III Статута ВКЛ пашырылася Магдэбурскае права, узмацніліся гандлёвыя сувязі з Ганзай, Венецыяй і Нідэрландамі. У пачатку XVII ст. быў вернуты Смаленск, а яшчэ раней - Гомель. Тэрыторыя распаўсюджваньня беларускага этнасу была зноў пасунута на Ўсход і трывала замацавалася тут да 1919 года. Нягледзячы на пазьнейшыя неспрыяльныя ўмовы: канчатковы захоп Смаленшчыны Маскоўскай Дзяржавай у сярэдзіне XVII ст., Паўночную вайну і вайну 1812 года, якія вогненным валам пракаціліся па Ўсходняй Беларусі, мяжа беларускага этнасу яшчэ ў пачатку XX ст. праходзіла на ўсход ад Смаленска і Бранска, за Невелем, Себежам і Ўсьвятамі.

Такім чынам, пайшоўшы ў Любліне на абмежаваньне сваёй незалежнасьці і на значную страту тэрыторыі, ВКЛ здолела захавацца як дзяржава са сваёй грашовай сістэмай, эканомікай, мовай, войскам і, галоўнае, са сваёй "літоўскай" ментальнасьцю яшчэ на два з нечым стагоддзі.

Таму не змагчалі жыхары ВКЛ у 1794 г., калі іхнюю дзяржаву вырашыў захапіць цалкам драпежны Ўсходні сусед, і сталі пад харугвы "ліцьвіна" Тадэвуша Касьцюшкі, які змагаўся "за вашу і нашу свабоду".

Нягледзячы на палянізацыю XVIII ст., магнаты і шляхта ВКЛ ніколі не забывалі, што яны - "ліцьвіны", грамадзяне менавіта ВКЛ, а не Кароны, і заўжды стараліся падкрэсьліць сваё паходжаньне.

Іх нашчадкі хацелі аднавіць ВКЛ і падчас вайны 1812 года, і падчас паўстаньняў 1830-1831 і 1863-1864 гадоў.

Першая палова XIX стагоддзя яшчэ захоўвала былую "ліцьвінскую" ментальнасьць сярод інтэлігенцыі Беларусі і Летувы. Дастаткова толькі ўспомніць творчасьць Адама Міцкевіча і Тэадора Нарбута.

У 1918 годзе на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай паўсталі дзьве незалежныя дзяржавы - Польшча і Летува. Украіна і Беларусь ня здолелі захаваць свой суверэнітэт і былі падзелены паміж Польшчай і Расеяй. Традыцыі Любліна былі адкінутыя стваральнікамі новай Рэчы Паспалітай, бо ўкраінцы і беларусы не атрымалі ніякай аўтаноміі ў межах новай краіны, якая прэтэндавала на ўсю гістарычную спадчыну дзяржавы "абодвух народаў", зьнішчанай у 1795 годзе. У гэты час паўсталі ўзброеныя канфлікты паміж палякамі і летувісамі, палякамі і ўкраінцамі. Дастаткова згадаць спрэчкі за Вільню і Львоў.

Кіраўнікі новай Польшчы, забыўшы ўрокі гісторыі, спадзяваліся на трывалы саюз з Расеяй (а потым з СССР) на глебе разьдзелу Ўкраіны і Беларусі.

Аднак дагавор "Молатава-Рыбентропа" ў жніўні 1939 года паставіў кропку на незалежнасьці Польшчы і Летувы. Тое, што не змаглі зрабіць расейскі цар і нямецкі імператар у XVI стагоддзі (бо ім перашкодзіў Люблін), пасьпяхова зьдзейснілі Гітлер і Сталін у Маскве.

Зараз, калі ў Віскулях па вядомых пагадненьнях Б.Ельцына, С.Шушкевіча, Л.Краўчука сканаў СССР і на тэрыторыі Ўсходняй Эўропы зьявіліся незалежная Польшча, Летува, Украіна і Беларусь, урокі Люблінскай вуніі зноў вяртаюць нас да высновы аб тым, што гісторыя заўжды паўтараецца для тых, хто яе забывае.

Паколькі ўсе вышэйзгаданыя дзяржавы ў роўнай ступені зьяўляюцца спадкаемцамі Рэчы Паспалітай, якая паўстала ў ліпені 1569 года, задача сучасных кіраўнікоў новых незалежных дзяржаў ператварыць гэты куток Эўропы ў зону эканамічнай і палітычнай стабільнасьці, дзе будуць адсутнічаць міжканфесійныя і міжэтнічныя канфлікты. Дзеля гэтага трэба максімальна пашырыць сувязі паміж нашымі народамі, асабліва ў галіне адукацыі, мастацтва і літаратуры. Наша грамадзтва чакае новых падручнікаў па гісторыі Польшчы, Летувы і Ўкраіны, напісаных з улікам тых зьменаў, што адбыліся ў нашым грамадзтве напрыканцы XX стагоддзя. Толькі разам мы зможам вярнуцца ў Эўропу і ўзяць удзел у пабудове агульнаэўрапейскага дома. У XXI стагоддзі Эўропа можа стаць аазісам спакою і міру, і менавіта нашыя агульныя намаганьні могуць скласьці той трывалы падмурак, на якім паўстане новая Эўропа без межаў і аснашчаных ядзернай зброяй шматтысячных армій.

**Алег ТРУСАЎ,**
**намесьнік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук.**




**Горадня на пачатку XX стагоддзя (пераздымак з паштоўкі).**

## ПРАЗ АБРАДЫ ДА РОСТУ СЬВЯДОМАСЬЦІ

У лістападзе ў Горадні пройдзе другі тур першага гарадзкога фестывалю нацыянальных абрадаў. Першы тур пачаўся ў верасьні і праводзіцца зараз у культустановах, арганізацыях і навучальных установах, на прадпрыемствах горада. У фестывалі прымаюць удзел малыя ансамблі і калектывы мастацкай самадзейнасьці розных нацыянальнасьцяў. Адначасова з аглядамі праходзяць выставы народных майстроў.

Лепшыя калектывы і выканаўцы будуць узнагароджаны дыпломамі і спецыяльнымі прызамі гарадзкога аддзела культуры і грамадзкіх арганізацый.

На думку арганізатараў фестывалю, яго правядзеньне будзе садзейнічаць далейшаму росту самасьвядомасьці людзей розных нацыянальнасьцяў, якія жывуць у Горадні, станоўча паўплывае на іх узаемаадносіны і паспрыяе ўзьнікненьню новых узораў мастацтва.

## А Ў ГОРАДНІ СНІДа НЯМА!

На Беларусі сёлета зарэгістравана 103 чалавекі інфіцыраваных ВІЧ. Найбольшая колькасьць інфіцыраваных (73) прыпадае на сталіцу. Астатнія жывуць на перыферыі. Большасьць ахвяр СНІДу ва ўзросьце ад 20 да 29 год. Ёсьць сярод інфіцыраваных і дзеці. Пяць дзетак атрымалі вірус яшчэ да народзінаў, двое былі інфіцыраваны ў шпіталях Расеі.

Пачынаючы з 1987 года ад СНІДу на Беларусі памерла шэсьць чалавек.

Дарэчы, толькі на Гарадзеншчыне дагэтуль не зарэгістравана ніводнага выпадку інфіцыраваных ВІЧ.

## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ ЗЬВЕРНУТЫ

Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі належыць скараціць на 30 працэнтаў сваіх супрацоўнікаў. Прычына - цяжкае фінансаваньне становішча інстытута, з-за якога супрацоўнікі ня могуць вязжаць ў камандыроўкі, каб весьці дасьледаваньні на абшарах Расеі, Летувы, Польшчы, Латвіі, Украіны.

## РЫНАК, ПОПЫТ І БЕЗАДКАЗНАСЬЦЬ

Добра памятаю з маленства, што такое рынкавыя адносіны. Яны ў тагачаснай Польшчы былі барометрам, які прадказваў попыт, густ і кошты. Калі тавар не карыстаўся попытам ці яго гатункаў было шмат у продажы, то вытворцы вымушаны былі зьніжаць на яго кошт. Наадварот жа, калі тавар быў дэфіцытам, кошт на яго быў высокі.

Нешта падобнае на прыватныя крамы, лаўкі таго памятнага мне часу нагадваюць нашы торжышчы, дзе попыт рэгулюе цану. Асабліва вельмі шмат паралеляў можна правесьці паміж сельскагаспадарчымі торжышчамі таго і сёньняшняга дня. Напрыклад, селянін ці прыватнік-гандляр, заўважыўшы, што яго тавар - а гэта мяса, сала, бульба - ня мае попыту, з мэтай рэалізацыі паніжаў цану да такой шкалы, што ўсёткі ягоныя тавары прадаваліся. Порчы тавару ён не дапускаў, бо мог застацца ні з чым. Тое ж самае сёньня назіраецца і на нашых торжышчах. На жаль, пачуцьцё адказнасьці і страху, што ты са сваім таварам застанешся, як кажуць, ля разьбітага карыта, не тычыцца і сёньня нашых дзяржаўных гандлёвых кропак. Вось прыклад. Нядаўна ў нашу скідальскую мясную краму завезьлі дарагую каўбасу. Многім пакупнікам кошт аказаўся не па кішэні. Я, як упаўнаважаны пайшчык Скідальскага спажывецкага таварыства, зьвярнуўся да старшыні райспажыўсаюзу з прапановай зьнізіць цану на каўбасу. Адказ самы савецкі: "Ня маем права". Потым сапсаваную каўбасу адправілі наноў на мясакамбінат на перапрацоўку. Наведаўшы каўбасны цэх, я даведаўся, што старое заляжалае мяса каўбас перамяшалі са сьвежым і зноўку яна трапіла ў гандаль. Гэта што тычыцца каўбасы.

Днямі набыў у Горадні ялавічыны ў краме па вуліцы Горкага, што супроць прадзільна-ніцячнага аб'яднаньня. Але калі прывёз дамоў і жонка зьняла абалонку, ад ялавічыны пайшоў такі пах, што яго не ўдалося вымачыць ні ў воцаце, ні ў марганцоўцы. Вось бы такое за польскім часам, калі рэяводзіла канкурэнцыя, я б паглядзеў, што праз нейкі месяц сталася б з такой крамай. А так усё зышло з рук, ніякай адказнасьці.

Пакуль безадказнасьць і безпакаранасьць прэвалююць у грамадзтве, то пра якія рынкавыя адносіны можа ісьці размова?

**І.БАРЫСАЎ.**

## ДА НАС ЕДУЦЬ ПРАЦАВАЦЬ

Каля дзесяці настаўнікаў з Летувы атрымалі сёлета працу ў Воранаўскім раёне Гарадзеншчыны. Усе яны працаўладкаваліся ў Пеляскую сярэднюю школу з летувіскай мовай выкладаньня, што непадалёк мястэчка Радунь.

Выдаткі на аплочваньне працы настаўнікаў, праезду і жыльля ўзяло на сябе Міністэрства адукацыі Летувы.

Дарэчы, аклады летувіскіх настаўнікаў на Беларусі сягаюць трох месячных заробкаў настаўніка, які працуе на Летуве.

**(Ул.інф.)**

 







# ІНФАКАЛАЖ

## АБРАНЫ, ПАРДОН, ЛЕПШЫ ЗАД ГОДУ

Пераможцай традыцыйнага лонданскага конкурсу "Лепшая попачка года" стала Мэндзі Сьміт. Конкурс праводзіцца дванаццаць год запар і мае сваіх фундатараў. Сёлета спонсарам незвычайнага конкурсу была кампанія па пашыву джынсавай вопраткі "ФУМ Джынс". Дарэчы, Мэндзі Сьміт - былая жонка Біла Вімана, музыканта знакамітай групы "Ролінг Стоўнз".

## СКРАЛІ НЯ ТУ НАГУ

Хацелі разбагацець, але скралі ня ту нагу чацьвёра рабаўнікоў-камэрунцаў. Злодзеі бачылі, як Жану, маладому прадпрымальніку-фермеру выдалі ў ашчаднай касе вялікую па сельскіх маштабах суму. Падглядзеўшы, як Жан схаваў купюры ў шкарпэтку, бандзіты зрабілі засаду. Перахапіўшы прадпрымальніка на адваротным шляху, адсеклі таму нагу і зьбеглі.

Калі ў шпіталі да Жана вярнулася памяць, то ён заявіў рэпарцёрам, што ня ўсё дрэнна, як здаецца на першы погляд: "Мне ўдалося перахітрыць рабаўнікоў, - з усьмешкай заявіў ён. - Злодзеі адсеклі мне ня ту нагу. Я заўважыў іх япічэ ў касе і, скарыстаўшы зручны момант, пераклаў грошы ў другую шкарпэтку. Ня ведаю, што яны будуць рабіць з маёй нагой, ды і шкарпэтка на ёй была дзіравая".

## А ДЗЕ Ж ПРЫВІДЫ?

Канадзкі бізнесмэн, які набыў ва ўласнасьць у ангельскім графстве Ланкашпа за мільён даляраў замак з прывідамі падаў у суд на былога ўласьніка. Лейтматыў іску - "невыкананьне ўмоў", паколькі за два гады жыцьця новы гаспадар ніводнага разу не сустрэў у замку абяцаных прывідаў.

## ПАМЁР БАЦЬКА 21-ГО ДЗІЦЯЦІ

Джон Найт - брытанскі супер-бацька, які мае ад дзьвюх жонак дваццаць адно дзіця - памёр ва ўзросьце 58 год.

Першая жонка Джона - Карол нарадзіла яму 12 дзяцей, другая - Клер Мартэнс - дзевяць.

Прычынай сьмерці Джона Найта стаў тромб у назе, якую той пашкодзіў летась, гуляючы ў футбол.

## ЭКСТРАСЭНС НА ДУШУ НАСЕЛЬНІЦТВА

Як паведаміў газеце "TERRA INKOGNITA" генеральны дырэктар навукова-дасьледчага цэнтру традыцыйнай медыцыны Я.Гальперын, зараз экстрасэнсорнымі здольнасьцямі валодае адзін чалавек на кожныя 50 тысячаў насельніцтва. Рост колькасьці экстрасэнсаў на душу насельніцтва абумоўлены тым, што дзякуючы дзейнасьці Кашпіроўскага ды многіх іншых, былыя пацыенты выявілі ў сябе здольнасьці экстрасэнсаў.

## КОТ - МЕДАЛІСТ І КОТ - ЗЛАЧЫНЕЦ

На аўкцыёне ў Лондане за 23000 фунтаў сьцерлінгаў прададзены адзіны ў сьвеце баявы мядаль ("За адвагу, выяўленую ў баявых дзеяньнях"), якім, дарэчы, была ўзнагароджана кіска па мянушцы Сайман. Кот Сайман у свой час жыў на борце брытанскага вайсковага карабля "Аметыст", які ў 1949 годзе быў атакаваны марскімі сіламі кітайскіх камуністых. Нягледзячы на раненьне, Сайман лавіў пацукоў, чым ахоўваў невялікія харчовыя прыпасы, калі з перабітымі вінтамі карабель дрэйфаваў па Ціхаму акіяну.

А вось кот прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Джона Мейджэра трапіў на лаву падсудных за тое, што з'еў чатырох птушанят з гнязда вераб'я і задушыў качку падчас прагулкі па парку Сьвятога Джэймса.

Аднак у ката-злачынца, нягледзячы на паказаньні сьведак, знайшліся абаронцы, якія спрабуюць пераканаць суддзяў у невіноўнасьці пацехі прэм'ер-міністра.




Алёна Міхайлаўна Салей (на здымку) па спецыяльнасьці выкладчыца беларускай мовы і літаратуры. Больш за 28 гадоў жыцьця аддала любімай справе. Спачатку працавала настаўніцай сярэдняй школы, а вось ужо дзесяць год як на пасадзе намесьніка дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Скідальскага ПТВ-199. Разам з тым яна па-ранейшаму зьяўляецца выкладчыкам роднай мовы.

Алёна Міхайлаўна родам з вёскі Казіміраўка, што ў Гарадзенскім раёне. Любоў да роднай мовы ёй была прывіта бацькамі з дзяцінства.

І.БАРЫСАЎ.

## ТОРЖЫШЧА СТРАЧАНЫХ РЭЧАЎ

Незвычайнае торжышча рэчаў існуе ў Тэль-Авіву. Тут ідзе гандаль рэчамі, што здадзены ў Бюро находак, і на якія ніхто не зрабіў запытаў у адпаведны з законам тэрмін.

Асартымент самы разнастайны - ад кішэнных гадзіньнікаў да фісгармоніі, і ад зубных пратэзаў да супрацьгазаў.

(з.д.)

## ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 24.10

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Мы і нашы дзеці. 10 55 Англійская мова для дзяцей. 11 05 "Дынастыя Колбі". Серыял вытв. ЗША. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Прыемнае з карысным. 12 30 Каталіцкая праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 40 Рэпартаж. 14 00 Прэзентацыя. 15 30 Патрэбныя-непатрэбныя. 15 55 Праграма дня. 16 00 Музычны журнал. 16 30 Альтэрнатывы. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 17 40 Гуляй з намі. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Публіцыстычная праграма. 19 10 Серыял вытв. Англіі. 19 40 Гісторыя польскага тэлебачання. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 15 Тэлетэатр. 22 40 Мініяцюры. 22 55 Пульс дня. 23 15 Тыдзень прэзідэнта. 00 00 Навіны. 00 20 "Віва Запата". Фільм вытв. ЗША. 02 10 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс ангельскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Прыгоды пана Міхала". Серыял вытв. Польшчы. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 05 Мультфільм для дзяцей. 11 30 Тэлетурнір. 12 00 Тэлепрадстаўленне. 12 35 Тэлечасопіс. 13 00 Брытанскі музей. 13 50 Гэта толькі плётка. 14 00 Панарама. 14 20 "Гэта цудоўная сямейка". Серыял вытв.Францыі. 15 15 Тэлечасопіс. 15 55 Прявітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Тэлечасопіс. 17 10 Бацькаўшчына. 17 30 Парыж. 18 00 Дакументальны фільм. 18 35 Рэпартаж. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 "Прыпынак Аляска". Серыял вытв.ЗША. 22 00 Панарама. 22 35 Рэпартаж. 23 00 "Арекстр". Фільм вытв. Францыі. 00 00 Публіцыстычная праграма. 00 30 Публіцыстычная праграма. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Дакументальны фільм.

### АЎТОРАК, 25.10

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 09 30 Для дзяцей. 09 55 Гімнастыка. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаварым пра дзяцей. 10 55 Мы і нашы дзеці. 11 00 Серыял вытв. ЗША. 11 45 Еўрапейскі партрэт. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Рынак працы. 12 20 Запрашэнне да стала. 12 30 Клуб адзінокіх сэрцаў. 12 50 Дамашні юрыст. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэсс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Тэлежурнал. 14 15 Кухня. 14 30 Тэлекомпьютер. 14 50 Наша Балтыка. 15 10 З гісторыі тэхнікі. 15 20 Дакументальны фільм. 15 45 У сьвеце навукі. 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычная праграма 16 30 Праграма для моладзі. 17 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 17 25 Праграма для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Арыя са смехам. 18 40 Аўтаманія. 19 05 Мультфільм. 19 30 Надзвычайны перагляд. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Далекія галасы, спакойнае жыцьцё". Фільм вытв. Англіі. 22 40 Лексікон польскай забаўляльнай музыкі. 23 00 Пульс дня. 23 20 Сеймограф. 23 30 Пісьма аб гаспадарцы. 00 00 Навіны. 00 20 Дакументальны фільм. 01 00 Богава і царава. 01 25 Як павесіць карціну. 01 45 Праграма аб паэзіі. 01 55 Музей. 02 20 Музычная праграма. 02 50 Паштоўкі з падарожжа.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс ангельскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Прыгоды пана Міхала". Серыял вытв.Польшчы. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 00 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв.Канады. 11 30 Тэлетурнір. 12 00 Марафон цвярозасці. 12 30 Музыка маё каханне. 13 00 У Катавіцах. 13 45 Гады майго жыцця. 14 00 Панарама. 14 30 "Забароннае каханне". Серыял вытв.Іспаніі. 15 10 Тэлечасопіс. 15 45 У чым справа? 15 55 Прывітанне. 16 00 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв.Канады. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Гістарычны часопіс. 17 30 Смутак і мары. 18 00 Тэлечасопіс. 18 10 Лісты з Еўропы. 18 40 Каталицкая праграма. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 Публіцыстычная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Экалагічная праграма. 22 40 Рэпарцёры другой праграмы прадстаўляют... 23 00 "Таямнічая дама". Фільм вытв. ЗША. 00 40 Рэпартаж. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 "Голем". Фільм вытв. Польшчы.

### СЕРАДА, 26.10

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаварым пра дзяцей. 10 55 Мы і нашы дзеці. 11 00 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 11 50 Музычная праграма. 12 00 Ад калыбелі да школы. 12 30 Кантэксты. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэсс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 30 Тэлежурнал. 13 50 Паўтарэнне гісторыі. 15 25 Свет мяняецца. 15 50 Праграма на вечар. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для моладзі. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 20 Тэлетэатр. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлетурнір. 18 45 Тэлежурнал. 19 05 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Паліцейскі для забойства". Фільм вытв. ЗША. 23 00 Пульс дня. 23 20 Маю права. 00 00 Навіны. 00 20 "Бегства ў Новы Свет". Серыял вытв. ЗША. 01 55 Дакументальны фільм.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс ангельскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Прыгоды пана Міхала". Серыял вытв.Польшчы. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Жывёлы вакол нас. 17 30 Дакументальны фільм. 17 50 Цени жыцця. 18 00 Дакументальны фільм. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Забаўляльная праграма. 21 00 Публіцыстычная праграма. 22 00 Панарама. 22 35 Экспрэс рэпарцёраў. 23 05 Тэатральная студыя. 23 55 Ф. Шуберт. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Рэпартаж.

### ЧАЦВЕР, 27.10

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Дзіцячае аддзяленне". Серыял вытв. Англіі. 09 30 Для дзяцей. 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаварым пра дзяцей. 10 55 Мы і нашы дзеці. 11 05 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Кулінарная праграма. 12 20 Гэта лёгка. 12 30 Набліжэнне да... 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэсс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Здароўе. 14 05 Жывёлы свету. 14 35 Праз мара і ільды. 15 00 Тэлежурнал. 15 25 Першы год жыцця дзіцяці. 15 50 Праграма дня. 16 00 Маладзежная музыка. 16 30 Для маладых гледачоў. 17 00 "Дзіцячае аддзяленне". Серыял вытв. Англіі. 17 25 "Дзе Валі?". Серыял вытв. Англіі. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Кінажурнал. 18 40 Сям'я сям'е. 19 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 19 30 Каталіцкая праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 22 05 Толькі ў першай праграме. 22 50 Сатырычная праграма. 23 00 Урадавы журнал. 23 10 Паліцейскі журнал. 23 25 Пегас. 00 00 Гаспадарчыя навіны. 00 20 Рэпартаж. 01 05 "Пегій пес бягучы па марскому берагу". Фільм вытв. СССР.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс ангельскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Прыгоды пана Міхала". Серыял вытв.Польшчы. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 16 00 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 16 30 Мульціхоббі. 17 00 Дакументальны фільм. 17 30 Музычная праграма. 18 00 Люблю кіно. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Кола фартуны. 20 35 Клуб спадара Рыся. 21 00 Спартыўная студыя. 22 00 Панарама. 22 35 Аўтачасопіс. 23 00 "Усе жывуць добра". Фільм вытв. Італіі. 01 05 Панарама. 01 10 Спартыўная праграма. 01 20 Люблю кіно.

### ПЯТНІЦА, 28.10

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 55 Гімнастыка. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 10 25 Дашкольнікі дома. 11 00 "Маладыя коннікі". Фільм вытв. ЗША. 11 50 Музычная праграма. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Пашый сама. 12 30 Журнал нацыянальных меньшасцяў. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэсс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Чалавек. 13 45 Якая школа? 14 10 Хто ты ёсць? 14 25 Раскрыць сябе. 14 45 Кабінет страха. 15 00 Тэлежурнал. 15 05 Калі не Оксфард, дык што? 15 25 Бізнэс па амерыканскі. 15 55 Праграма дня. 16 00 Музыкальны тэлетурнір. 16 30 Забаўляльная праграма. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлежурнал. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлежурнал спажыўца. 19 05 Спадканне ўцёмную. 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Бярэмя віны". Фільм вытв. ЗША. 22 45 Пульс дня. 23 10 Чвэрць гадзіны. 23 25 Наш шкаф. 00 00 Навіны. 00 15 Вочы ў вочы. 01 45 "Баланга". Фільм вытв. Польшчы. 02 05 Праз мара і ільды. 02 25 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс ангельскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Серыял вытв.Даніі. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Праграма для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "Ад дзевяці да пяці". Камедыйны серыял вытв. ЗША. 17 55 Дакументальны фільм. 18 35 Рэпартаж. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Адзін з дзесяці. 20 35 Тэлечасопіс. 22 00 Панарама. 22 30 Забаўляльная праграма. 23 05 "Місеры". Трылер вытв. ЗША. 01 00 Панарама. 01 05 Спорт. 01 15 Забаўляльная праграма.

### СУБОТА, 29.10

**ПРАГРАМА 1**

08 00 З Польшчы. 08 10 Прашу адказаць. 08 25 Усё аб агародзе. 08 50 Агралінія. 09 30 Спартыўны тэлежурнал. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Првграма катвліцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 00 Дакументальны фільм. 12 45 Тэлежурнал. 13 00 Навіны. 13 10 Забаўляльная праграма 13 55 Жывёлы свету. 14 30 Мультфільмы У. Діснея. 15 50 Забаўляльная праграма. 16 15 Дзень нараджэння Салідарнасці. 16 55 Краіна. 17 25 "Сямейнае прадпрыемства". Камедыйны серыял вытв. Польшчы. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 50 Забаўляльная праграма. 19 10 "Бэвэрлі Хілз". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Дзіцячы тэлежурнал. 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Бярэмя віны". Фільм вытв. ЗША. 22 55 Чар пар. 00 20 Навіны. 00 30 Спартыўная субота. 01 05 "Прапаведуючыя зло". Фільм жахаў вытв. ЗША. 02 55 "Хелгейт". Фільм жахаў вытв. ЗША. 03 20 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Музычная раніца. 08 30 Такія самотныя. 08 50 Урок мовы глуханямых. 08 55 Прывітанне. 09 00 Прафесія - любицель. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Дакументальны фільм. 11 30 Праграма аб жывёлах. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 Акадэмія польскага кіно. 15 30 Жыццё побач з намі. 16 00 Спартыўная студыя. 16 30 Прывітанне. 16 45 Тэленавела. 17 00 Серыял вытв.ЗША. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Канцэрт. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Семь дней - мир. 20 00 Тэлетурнир. 20 35 Дыра в корзине. 21 00 Развлекательная праграма. 22 00 Панорама. 22 30 Слово на воскресенье. 22 35 Музыкальный журнал. 23 05 "Пат Гаррет и Билли Кид". Вестерн пр-ва ЗША. 01 05 Панорама. 01 10 Рок-ночь.

### НЯДЗЕЛЯ, 30.10

**ПРАГРАМА 1**

08 00 Сельская гаспадарка ў свеце. 08 15 Далёка і блізка. 08 30 Тядзень. 09 00 Сельскагаспадарчая праграма. 09 30 Нядзельная кінапраграма. 09 55 Забаўляльная праграма. 10 10 Тэлераніца. 10 40 Музычная скрыня. 11 10 Серыял вытв. Канады. 12 00 Навіны. 12 10 Дакументальны фільм. 13 00 Тэлеканцэрт па жаданняў. 13 30 З камерай сярод звярэй. 13 45 Энцыклапедыя другой сусветнай вайны. 14 10 Перац і ваніль. 14 55 У старым кіно. 16 40 Сто пытанняў. 17 10 Вочы ў вочы. 17 35 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Стоіт пасмяяцца. 19 05 "Дынастыя Колбі.". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "По зову сэрца". Серыял вытв. Італіі. 22 05 Спартыўная нядзеля. 22 30 Галівудскія чараўнікі. 22 55 Публіцыстычная праграма. 23 20 Вечар з Аліцiяй. 00 20 "Іншаземка". Фільм вытв. Польшчы. 02 20 Баксёрскі турнір.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Эхо недели. 08 30 Фильм для глухих. 09 15 Слово на воскресенье. 09 20 Приветствие. 09 30 Польские фамилии. 10 00 Местная праграма. 11 00 Фестиваль. 12 00 Мультфільм для дзяцей. 13 00 Комедия пр-ва Англии. 14 00 Биографический фільм. 15 00 Путешествие во времени и пространстве. 15 55 Тэлежурнал. 16 00 Тэлетеатр для дзяцей. 16 50 Вторая праграма. 17 00 "Как есть". Серыял вытв.Польши. 17 30 Тэлетурнир. 18 00 Дакументальны фільм. 19 00 События ннедели. 19 25 Спортивная студия. 19 50 Местная праграма. 20 00 Тэлетурнир. 20 35 Мультфільм. 21 00 Час откровения. 22 00 Панорама. 22 30 Необитаемый остров. 23 25 "Семейные фотографии". Серыял вытв.ЗША. 00 10 Тэлетеатр. 01 15 Панорама. 01 20 Музыкальная праграма.

 

